НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

ЭКАНАМІЧНЫЯ НАВІНЫ

## З бюджэтам яшчэ будуць разбірацца...

15 лютага зноў вярнуцца да праблемы бюджэту маюць намер члены Кабінета Міністраў. Будуць сфармуляваны прапановы, якія датычацца дадатковых сацыяльных датацый, а таксама ўвядзення транзітных падаткаў і збораў.

Як вядома, пытанне аб спагнанні транзітных збораў было ўключана ў прапанаваны парламенту праект альтэрнатыўнага бюджэту, падрыхтаваны Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамадой. Цяпер ва ўрадзе прапрацоўваюць і ўдакладняюць гэты дакумент. Прадугледжваецца, што на сесію 15 лютага Кабінет Міністраў вынесе пытанне аб пераліку краін, з якіх будуць спаганяцца транзітныя падаткі і зборы з грамадзян.

## Пра даўгі надзённыя і будучыя...

За кошт бюджэтных крыніц дзяржава павінна выплаціць у бягучым годзе 100 мільёнаў долараў асноўнага доўгу і 60 мільёнаў працэнтаў па крэдытах. Такія лічбы абнародаваў на прэс-канферэнцыі прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір.

На сённяшні дзень рэспубліка не заплаціла Расіі за газ больш як 400 мільёнаў долараў ЗША. "Калі мы зможам атрымаць фінансавую падтрымку МВФ, то гэтыя грошы часткова пойдуць на пагашэнне доўгу за газ, — паведаміў Міхаіл Чыгір. — На пагашэнне астатняй сумы доўгу будзем прасіць адтэрміноўку да 2000 года".

Адносна знешняга доўгу рэспублікі і міжнароднай практыкі крэдытнай бяспекі кіраўнік Кабінета Міністраў паведаміў, што Беларусь, з улікам крэдытнай падтрымкі, якую яна разлічвае атрымаць сёлета, пакуль што ўкладваецца ў прынятыя нарматывы. "Знешні доўг рэспублікі, калі не лічыць запазычанасці па энерганосьбітах, на сёння складае 1 мільярд 900 мільёнаў долараў ЗША, — сказаў ён. — Калі ўзяць, напрыклад, Польшчу, то зусім нядаўна знешнія даўгі гэтай дзяржавы складалі каля 40 мільярдаў долараў! Таму гавараць пра тое, што Беларусь увайшла ў забароненую зону, рана".

**Кацярына ВЫСОЦКАЯ,**
**Белінфарм.**

Імёны і даты

## Ён быў ваяводам, старастам, вялікім канцлерам... Але найперш — патрыётам Бацькаўшчыны

***Камісія па культуры БНФ "Адраджэнне", Беларускі евангелічны рэфармацкі збор, Згуртаванне беларускай шляхты і Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" прынялі зварот да грамадства і ўрада краіны з нагоды таго, што сёлета спаўняецца 480 гадоў з дня нараджэння выдатнага дзяржаўнага, палітычнага і хрысціянскага дзеяча Беларусі — князя Мікалая Радзівіла Чорнага.***

Ён, як адзначаецца ў звароце, займаў высокія і адказныя пасады ў нашай дзяржаве — вялікага канцлера, віленскага ваяводы, старасты берасцейскага, ковенскага, барысаўскага, адміністратара Лівоніі, праводзіў цвёрдую палітыку ўмацавання дзяржаўнага суверэнітэту, умела ажыццяўляў аграрна-эканамічныя рэформы. Дзякуючы паслядоўнай незалежніцкай пазіцыі канцлера Радзівіла наша дзяржава дасягнула найвышэйшага росквіту, а грамадскае жыццё будавалася на юрыдычных прынцыпах нацыянальнага права.

Ягоным стараннем і мецэнацкай падтрымкай на Беларусі былі створаны буйныя выдавецкія цэнтры, плённа прадоўжана асветніцкая традыцыя доктара Францішка Скарыны.

Лейтматыў звароту — абвясціць 1995 год на Беларусі годам Мікалая Радзівіла Чорнага, заклікаць беларускія дзяржаўныя і мясцовыя органы кіравання, установы культуры, навукі і адукацыі ўшанаваць памяць гэтага адданага патрыёта нашай Айчыны.

Арганізацыі, што падпісалі зварот, прапануюць шырокую праграму святкавання ўгодкаў. У ліку бліжэйшых мерапрыемстваў — навуковая канферэнцыя "Мікалай Радзівіл Чорны і яго час" (Мінск, Дом літаратара, 4 лютага), навуковыя Радзівілаўскія чытанні (Слуцк,-5 лютага), ушанаванне памяці князя і спектакль "Барбара Радзівіл" у рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі "Вольная сцэна" (9 лютага). Прапануецца ўвекавечыць імя гістарычнага дзеяча ў назвах шэрагу вуліц, плошчаў, устаноў.

**Кастусь АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### Аб узнагароджанні работнікаў Лукомльскай ГРЭС Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

За шматгадовую, добрасумленную працу, значны асабісты ўклад у развіццё энергетыкі ўзнагародзіць Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:

ЛЕУРДУ Віктара Паўлавіча — электрагазазваршчыка.

МАКАРЭВІЧА Пятра Віктаравіча — галоўнага інжынера.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**М.ГРЫБ.**

25 студзеня 1995 г., г.Мінск.
№ 3544-XII

Что за конфликтом?

# Долгая дорога к дому

### Пустующее "чернобыльское" жилье — слишком большое искушение для голодного общества

**Василий САРЫЧЕВ,**
**собственный корреспондент "Народной газеты" по Брестской области**

Евгения Андреевна Сивуха, мать четырех детей, педагог с большим стажем, начала свою одиссею лет десять тому назад. Завернув в целлофан свое педагогическое мастерство, она принялась предлагать его в обмен на жилье среди красивой и, главное, здоровой природы — для младшего сына. Андрюша ее страдал бронхиальной астмой, и гомельская Речица, где Евгения Андреевна двадцать лет проработала "немкой" в зооветеринарном техникуме, здоровья мальчишке не прибавила.

Сначала, вдрызг разругавшись по этому поводу с мужем, она отправилась в северные края, где на глазах чахший семилетний сынишка вдруг порозовел и стал озорничать снежками. Но, приехав через год в отпуск, поддалась уговорам вернуться в родной техникум и доработала там до Чернобыля. Потом сынишке опять стало хуже, и Евгения Андреевна отправилась в путешествие уже по белорусским деревням, ища тихий уголок с жильем и работой. Старшие дочери к тому времени уехали учиться в Ленинград, отношения с мужем вконец допортил известный репутацией Север, и свободная в решениях учительница в течение шести лет последовательно трудилась в школе Червенского и сельклубе Столбцовского районов. Но квартирантство сродни жизни на вулкане, да и у руководства она прослыла дамой с норовом, каких терпят ограниченное время.

И вот однажды, рассчитавшись с последней работой и готовя сынишку к витку новых скитаний, женщина услышала по радио о проблеме пустующего "чернобыльского" жилья. На специально выделяемые бюджетные средства в "чистых" белорусских деревнях строилось жилье для отселенцев из зараженных районов Гомельщины и Могилевщины, но по различным причинам многие дома оставались незаселенными, разворовывались и в конце концов передавались под заселение местным жителям. Радио настоятельно звало белорусских жертв Чернобыля оставлять нездоровые земли и ехать туда, где их ждали.

Прикинув и набравшись духу, Евгения Андреевна отправилась в Госкомчернобыль, где свою беду выплакала. И — не все же жизни бить — свершилось чудо или сработали другие мотивы, но ее выслушали с пониманием и сказали, что хоть Речица и не является зоной обязательного отселения, дающего право на чернобыльское удостоверение и длинный перечень льгот, как зона периодического контроля эта местность действительно вредна сыну по медицинским показаниям и с учетом ее тягот и материнских заслуг Евгения Андреевна имеет основание рассчитывать на "чернобыльскую" квартиру. Рука не поднимается обсуждать доброту. Без волокиты с подтверждающими документами. Получив рекомендательную справку с резолюцией зампредседателя Госкомчернобыля Н.Марковского, Е.Сивуха отправилась в названный ей Барановичский райисполком, имевший достаточное количество незаселенного "чернобыльского" жилья. "Считаем целесообразным выделить гр.Сивухе Е.А. дом в дер.Столовичи" — гласила значимая часть справки.

❑

Несколько слов о схеме, по которой производится отселение из зараженных районов. Гомельский (Могилевский) облисполком имеет списки подлежащих переселению семей, каждая из которых с взаимного согласия закреплена за конкретным строящимся или построенным жильем. После ввода очередного дома соответствующая семья сдает свою старую квартиру или дом и переходит в разряд переселенцев-новоселов.

Надо сказать, процесс сдачи квартиры и психологической подготовки к переезду чаще затягивается на месяцы, а многие так и не находят в себе сил оставить родные места, где к тому же платят надбавку к окладу. Отсюда и возникает невостребованное жилье, формально принадлежащее Гомельскому или Могилевскому облисполкому, но находящееся в территориальном ведении райисполкомов и сельсоветов, в нашем случае Брестской области. Со временем такие дома, как правило, передаются на баланс местных хозяйств, которые часть у государства выкупают, а часть выторговывают в качестве компенсации за использование коммуникаций.

❑

В Барановичском райисполкоме нашу учительницу встретили приветливо и с легкой руки начальника УКСа даже отвезли в Столовичи (18 километров от райцентра), где на нее, сына и учащуюся в Санкт-Петербурге дочь выдали ключи от трехкомнатной квартиры на первом этаже двухквартирного коттеджа. Всего таких коттеджей, процентов на семьдесят тогда пустовавших, в деревне построено десять, с типовыми трехкомнатными первыми этажами и четырехкомнатными вторыми. Была пятница, и по поводу дооформления Сивухе сказали приехать в УКС в понедельник.

На ее беду именно в понедельник вышла из отпуска главный инженер УКСа Тамара Мацковская, ведавшая заселением построенного в районе "чернобыльского" жилья. Увидев рекомендательную справку Госкомчернобыля, не подкрепленную чернобыльским удостоверением, она пришла в раздраженное недоумение. Евгения Сивуха не смолчала, и пошло-поехало...

По букве инструкции Т.Мацковская была права, одной справки Госкомчернобыля для выделения квартиры, действительно, было маловато. Не удовлетворилась главный инженер и согласительной резолюцией начальника управления Гомельского облисполкома, заказчика и хозяина жилья, — она требовала чернобыльского удостоверения и полного набора документов. А неделю спустя пустующие дома были переданы колхозу "Новый путь", и рядом с Т.Мацковской столь же непримиримо встал грудью бывший предисполкома, а в тот момент председатель колхоза Валерий Раинчик (кстати, в результате формирования "вертикали" вновь возглавивший Барановичский райисполком).

И началась война.

Не стану погружать читателя в бумажную рутину этой тяжбы, она запутанна и утомительна. У Сивухи требовали различные справки, некоторые она оскорбительно быстро предоставляла, райисполком слал запросы, перепроверял, торжествующе находил какую-то закавыку... На Сивуху завели особую папку, которая быстро пополнялась: при трехкомнатной квартире в Речице не оформлен развод с мужем, подозрительно утеряны два паспорта, сомнительная справка Речицкого исполкома, подложная институтская справка дочери... Госкомчернобыль стоял на своем, продолжая поддержку Сивухи и требовательно прозванивая райисполкомовские телефоны. Сивуха тем временем держала в спорной квартире круговую оборону. Тянулось это полтора года.

Это было тяжелое время. Без прописки учительница не могла устроиться на работу и получать на сына пособие. И в доме жила, как в осажденной крепости: ей отключали свет, перекрывали газ, врезали в дверь другой замок, пробовали вывезти на колхозный склад газовую плиту. Колхозный председатель приводил участкового, обещая "вышвырнуть" строптивцев на улицу. На квартиру даже выписывался ордер семье других переселенцев. Оставив на улице жену, детей и любопытствующую администрацию, глава семейства, бывший сотрудник угрозыска, яростно штурмовал "выделенное ему жилье", но упорную женщину не осилил. Показав кукиш и напомнив об ответственности, учительница заперлась изнутри. Кончилось тем, что к вечеру плакавших на вещах переселенцев определили в... нашедшуюся четырехкомнатную квартиру.

Поняв, что голой силой квартиру не взять, колхоз решил действовать через суд. Длилось это месяцы, но после пяти судебных разбирательств Евгения Сивуха процесс все же выиграла и получила решение о безоговорочной выдаче ей ордера.

❑

Вот, собственно, и вся история. Перечитал сейчас написанное и не обрадовался: кажется, получилась миллион первая статья о бюрократическом бездушии. Или о хитрых наших инструкциях, в зависимости от трактовки допускающих две, три и более правд. Или, на худой конец, о еще одной возможности с пользой обогреться чернобыльским теплом. Замечу, был бы слишком упрощенным вывод о "добрых людях в Госкомчернобыле" и "злых барановичских клерках" — расклад здесь в сто крат запутанней, и не газете с этим клубком разбираться.

А главный пафос, который искал в этой истории автор для себя, был совсем в другом. Он оказался... в зубах и локтях как наиболее значимых ценностях человеческого организма. Ибо в житейские блага в нашем обществе приходится вгрызаться и вырывать их с любыми моральными издержками.

Далеко не у всех граждан есть выдержка и напор учительницы Евгении Андреевны Сивухи, не на всех хватит и госкомчернобыльской доброты. А значит, у большинства, не успевшего устроить свой быт при том бездушно-тоталитарном социализме, уже нет шансов на сносную жизнь.

И несколько строк "между прочим". По свидетельству зампредседателя Госкомчернобыля Н.Марковского, наудачу заворачивавшие в Столовичи переселенцы получали категоричный отворот: жилья нет! Но, пропустовав больше года, шесть из двадцати "чернобыльских" коттеджных квартир достались работникам колхоза, в числе которых главный инженер В.Шелесный, главный бухгалтер Я.Давыдюк и главный экономист В.Волков — по четырехкомнатной общей площадью 89 квадратных метров на четверых человек.

*Барановичский район.*

ЗАКОН И Я

### Раздел ведет доктор юридических наук, профессор Василий Федорович ЧИГИР

## Был гараж — и нет гаража...

***Читатель Ж. просит дать ответ на вопрос, который в последние годы стал актуальным для многих граждан, имеющих в собственности автомобили и гаражи.***

Типичная ситуация. В одном ряду стенка к стенке стоят гаражи, принадлежащие гражданам на праве собственности. Один из собственников в своем гараже хранит мягкую мебель, холодильник, пылесос, продукты питания, емкости с бензином и другое имущество. В дни, когда температура низкая, гараж отапливается. В один из таких дней в гараже произошел взрыв. Рухнули перекрытия и кирпичные стены. Результат — сгорели три гаража и автомобили, которые находились в двух из них.

Вопрос: имеет ли читатель Ж., гараж и автомобиль которого сгорели, потребовать возмещения убытков собственником гаража, в котором произошел взрыв?

Ответ на этот вопрос зависит от причины взрыва в гараже, где хранилось имущество и бензин. Причину взрыва должны установить пожарные службы. Если будет установлено, что взрыв произошел вследствие нарушения правил противопожарной безопасности собственником гаража, в котором хранилось названное имущество, то в соответствии со статьей 442 Гражданского кодекса Республики Беларусь собственник гаража, виновный в случившемся, обязан возместить убытки, причиненные пожаром читателю Ж. и другому собственнику, гараж которого тоже сгорел. Причинитель вреда может быть освобожден от ответственности, если ему удастся доказать, что вред причинен не по его вине. Статья 451 Гражданского кодекса Республики Беларусь, которая предусматривает ответственность без вины, в данном случае не может быть применена.

Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## Аб прагнозе сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1995 год

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прыняць да ведама падрыхтаваны на аснове Праграмы неадкладных мер па выхаду эканомікі з крызісу прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1995 год і яго важнейшыя параметры:

1995 год у працэнтах да 1994 года (у супастаўных цэнах)

валавы ўнутраны прадукт — 93—95,8

прадукцыя прамысловасці — 91—94

валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі ва ўсіх катэгорыях гаспадарак — 102—105

вытворчасць тавараў народнага спажывання — усяго — 100,5

у тым ліку:

прадуктовых — 100

непрадуктовых — 100,3

знешнегандлёвы абарот — 110

капітальныя ўкладанні за кошт усіх крыніц фінансавання — 83,9

індэкс росту спажывецкіх цэн, разоў — 3,9

грашовыя даходы насельніцтва ў цэнах адпаведных гадоў, разоў — 3,5

удзельная вага прадукцыі прамысловых прадпрыемстваў недзяржаўных форм уласнасці ў агульным аб'ёме прамысловай прадукцыі — 30

увод у дзеянне аб'ектаў сацыяльна-культурнай сферы за кошт усіх крыніц фінансавання:

жылыя дамы, тыс. кв. метраў агульнай плошчы — 3800

агульнаадукацыйныя школы, тыс. месцаў — 15

дашкольныя ўстановы, тыс. месцаў — 4,3

бальніцы, тыс. ложкаў — 2,05

амбулаторна-паліклінічныя ўстановы, тыс. наведванняў у змену — 5,55

2. Лічыць асноўнымі задачамі на 1995 год рэалізацыю Праграмы неадкладных мер па выхаду эканомікі з крызісу, зніжэнне ўзроўню інфляцыі і на гэтай аснове ажыццяўленне інвестыцыйнай дзейнасці, запавольванне спаду вытворчасці, забеспячэнне сацыяльнай абароны насельніцтва, у першую чаргу маламаёмных грамадзян, актывізацыю па ўсіх накірунках правядзення рыначных рэформ.

3. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь зацвердзіць на 1995 год аб'ёмы паставак тавараў для рэспубліканскіх дзяржаўных патрэб, ліміты цэнтралізаваных капітальных укладанняў і іншых рэсурсаў і ў месячны тэрмін давесці іх да міністэрстваў, ведамстваў, выканаўчых камітэтаў абласных і Мінскага гарадскога Саветаў дэпутатаў, аб'яднанняў, прадпрыемстваў і арганізацый.

4. Даручыць Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь разгледзець заўвагі і прапановы пастаянных камісій Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, выказаныя пры разглядзе прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1995 год, і прыняць па іх неабходныя меры.

**Старшыня Вярхоўнага Савета**
**Рэспублікі Беларусь**
**М.ГРЫБ.**

17 студзеня 1995 г., г.Мінск.
№ 3531—XII

Улыбнемся с художником!







Рисунки Олега ПОПОВА.

Стало известно

## Клюква из-под реактора

***Оршанский городской центр гигиены и эпидемиологии в ходе плановой проверки выявил партию клюквы, заготовленную местным райпотребсоюзом, в которой содержание радионуклидов превышало предельно допустимые нормы в 1,6 раза.***

Райпотребсоюз заготавливает ежегодно 10—18 тонн клюквы, при этом проверки на содержание радионуклидов считаются обязательными. В данном случае, как стало известно корреспонденту агентства РИД, одна из ответственных за приемку ягод работниц сделала исключение для 53 кг клюквы. Они-то, как выяснилось позже, и были загрязнены радионуклидами. Материалы по данному происшествию переданы в прокуратуру.

**Людмила МАРШАЛОВИЧ.**

## Как бы земля налогом не "вышла"

***Всего 194 заявления на приватизацию земельных участков подано в Голоцкий сельсовет Пуховичского района, два из которых — от местных жителей.***

И это несмотря на то, что земля отдается почти даром — 55 рублей за сотку. Остальные желающие получить землю в собственность — столичные дачники. Селяне же опасаются высоких налогов на землю в случае, если она перейдет в их частную собственность.

**Елена КЛИМОВИЧ.**

У Кантрольнай палаце Рэспублікі Беларусь

# Дайшла чарга і да іншаземцаў

**Іван ГЕРАСЮК**

Упершыню за час дзейнасці Кантрольнай палаты "на дыван" выклікалі іншаземца. Адказ трымаў грамадзянін Аўстрыі Элінгер Вернэр, генеральны дырэктар сумеснага беларуска-аўстрыйскага прадпрыемства "Аўстрабел". Зразумела, не адзін, а разам з прадстаўнікамі Беларускага металургічнага завода. Праўда, сам дырэктар завода Ю.Феакцістаў, які адначасова з'яўляецца і членам праўлення гэтага сумеснага прадпрыемства (таварыства з абмежаванай адказнасцю), не прысутнічаў. Не прыехаў.

СП "Аўстрабел" займаецца вытворчасцю мясных і каўбасных вырабаў, аптовым і рознічным гандлем, аказаннем паслуг у сферы грамадскага харчавання, бытавога абслугоўвання і, зразумела, гандлёва-пасрэдніцкай дзейнасцю, як і многія іншыя закупачна-перакупачныя фірмы. За няпоўныя тры гады існавання прадпрыемства з усяго гэтага мела прыбытак амаль 400 мільёнаў рублёў.

Прыкладна ў такую ж суму Кантрольная палата ацэньвае і ўрон, нанесены аўстрыйска-беларускімі прадпрымальнікамі нашай дзяржаве. Як вынікае з матэрыялаў праверкі, сумеснае прадпрыемства ўмудрылася парушыць каля дзесятка заканадаўчых актаў нашай рэспублікі.

Нібыта "недапрацоўкі" і "недагляды" пачаліся з самага пачатку. Жлобінскі гарадскі Савет народных дэпутатаў пытанне аб стварэнні СП "Аўстрабел", як гэта прадугледжана законам, не разглядаў. Згоду на яго стварэнне даў намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкама С.Пракапенка, хоць пры ўсёй сваёй таленавітасці ён ніяк не можа замяніць цэлы гарсавет. Прычым гэты дазвол быў дадзены толькі праз тыдзень пасля таго, як "Аўстрабел" зарэгістравалася ў Дзяржкамітэце па знешніх эканамічных сувязях. Цікава, хто і за што даў права знешнеэканамічнай дзейнасці прадпрыемству, якое юрыдычна яшчэ не існавала? На жаль, гэта пытанне на пасяджэнні савета Кантрольнай палаты не высвятлялася.

А яшчэ раней намеснік старшыні Дзяржкамітэта па прамысловасці і міжгаліновых вытворчасцях В.Галко дазволіў Беларускаму металургічнаму заводу выступіць адным з заснавальнікаў сумеснага прадпрыемства "Аўстрабел", забыўшыся, аднак, акрэсліць правы распараджэння дзяржаўнай уласнасцю, якая передавалася ў статутны фонд.

Своеасабліва фарміраваўся і статутны фонд. Частка яго ўносілася грашыма, частка — маёмасцю. Экспертная камісія дакладнасць кошту маёмаснага ўкладу не правярала. Разам з тым Беларускі металургічны завод унёс у статутны фонд аўтамабіль ВАЗ-2107 коштам (па тагачаснаму падліку) 19 тысяч долараў ЗША. 30 верасня 1994 года па рашэнню праўлення прэстыжная "сямёрка" была прададзена "фізічнай асобе" за 928119 рублёў, што па курсу Нацыянальнага банка складала тады 165 долараў ЗША.

Скажыце, дзе б гэта купіць двухгадовую "сямёрку" за 165 долараў? Як гэта трапіць у лік "фізічных асоб", да якіх так клапатліва адносіцца праўленне сумеснага прадпрыемства? Зноў жа, на жаль, прозвішча і пасада "фізічнай асобы" ў час разгляду пытання дыпламатычна замоўчвалася. Толькі пазней, у кулуарах, я даведаўся, што ўладальнікам часткі статутнага фонду ў выглядзе "Жыгулёў" стаў адзін з намеснікаў Ю.Феакцістава. Ці той, які прысутнічаў на пасяджэнні, ці нейкі іншы — устанавіць не ўдалося.

Пераход часткі беларускага ўкладу ў прыватную ўласнасць парушыў баланс (50 на 50 працэнтаў), прадугледжаны статутам СП, што таксама парушэнне. З парушэннем статута размяркоўваўся і прыбытак, які заставаўся пасля абавязковых плацяжоў. Дывідэндаў заснавальнікі не атрымлівалі, а накіроўвалі грошы ў фонд спажывання і накаплення. Грошы з гэтага фонду ў 1993—1994 гг. "спажываліся" так: на пакрыццё страт ад псавання каўбас — 225,4 тысячы рублёў, на выбракоўку імпартных тавараў у сувязі з іх псаваннем, боем, некамплектнасцю — 10 мільёнаў 562,7 тысячы рублёў. Тут трэба крышку прыпыніць пералік і паразважаць. Ну, можа быць, што каўбасы, зробленыя ў Жлобіне, сапсаваліся. Але каб імпартныя... Каб замежная фірма, якая даражыць сваёй рэпутацыяй адпраўляла некамплектныя вырабы або ў такой упакоўцы, што пляшкі пабіліся? Малаверагодна. Хто ж тады разукамплектаваў тыя тавары? Хто пабіў бутэлькі ці мо выпіў? Пра гэта на пасяджэнні савета Кантрольнай палаты нават не згадвалася. Унутраная справа прадпрымальнікаў. Але ж больш за 10 мільёнаў рублёў... Апетыты...

Неблагія апетыты, калі верыць актам, і на прэзентацыях. Так, на прэзентацыю гэтых самых мясных і каўбасных вырабаў іх спісана на 13 мільёнаў 659,4 тысячы рублёў і яшчэ амаль 23 мільёны рублёў — на прадстаўнічыя расходы. Нагадаю, што гэта было да дэнамінацыі беларускага рубля.

Вольна распараджаліся ў "Аўстрабеле" і з валютай. Абавязковы продаж 50 працэнтаў і 15-працэнтная рэнта не рабіліся. Генеральны дырэктар СП Элінгер Вернэр ехаў у Аўстрыю з тугімі пачкамі банкнотаў, якія заносіў у мытную дэкларацыю, як свае асабістыя, хоць гэта былі грошы прадпрыемства. Там ён плаціў імі за тавары, што пацверджана дакументамі. Але вельмі ж гэта падобна на трывіяльную кантрабанду. Цяпер Нацыянальнаму банку прапанавана разабрацца з усімі гэтымі валютнымі хітрыкамі. Унесены Кантрольнай палатай прапановы і іншым ведамствам.

Між тым закончылася пасяджэнне савета даволі міралюбна. Старшыня Кантрольнай палаты Васіль Саковіч пажадаў аўстрыйскаму бізнесмену плённа працаваць на карысць сваёй і нашай дзяржавам і больш не парушаць законаў Беларусі, хоць яны і падаюцца яму недасканалымі.

Якія б законы ні былі — дрэнныя ці добрыя — парушаць іх не дазволена нікому. У тым ліку і іншаземцам.

❑

Другое пытанне — па Міністэрству энергетыкі Рэспублікі Беларусь — на гэтым пасяджэнні савета Кантрольнай палаты разгледжана не было. Міністр В.Герасімаў праігнараваў запрашэнне кантрольнай службы, хоць гаворка павінна была ісці пра значна большы ўрон, нанесены дзяржаве, чым у першым выпадку.

## Прэміі імя Алеся АДАМОВІЧА

У гэтыя дні мінуў год, як не стала Аляксандра Міхайлавіча Адамовіча, выдатнага пісьменніка і грамадскага дзеяча, чалавека, усё свядомае жыццё якога было прысвечана барацьбе за свабоднае слова.

Дзеля ўшанавання яго памяці, а таксама маючы на мэце заахвочванне творчай актыўнасці беларускіх публіцыстаў, Беларускі ПЭН-цэнтр і Мас-Медыя Цэнтр вырашылі ўстанавіць прэміі імя Алеся Адамовіча за лепшы публіцыстычны твор.

Прэміі прысуджаюцца ў чатырох намінацыях: у галіне газетнай журналістыкі, у галіне тэлевізійнай журналістыкі, у галіне радыёжурналістыкі і ў галіне літаратурнай публіцыстыкі.

Старшынёй журы па прэміях імя Алеся Адамовіча абраны народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў.

Прэміі імя Алеся Адамовіча прысуджаюцца штогод за лепшыя творы публіцыстыкі, прысвечаныя актуальным праблемам сучаснасці.

На разгляд прымаюцца апублікаваныя (як правіла) артыкулы і цыклы артыкулаў у беларускіх газетах і часопісах, тэле- і радыёпраграмы. Для разгляду на атрыманне першага цыкла прэмій прымаюцца матэрыялы за перыяд з 1 студзеня да 1 жніўня 1995 года.

Матэрыялы падаюцца аўтарамі, а таксама іншымі асобамі і арганізацыямі на адрас: 220072, Мінск, вул. Ф.Скарыны, 15-а, Мас-Медыя Цэнтр. Газетныя і часопісныя артыкулы прадстаўляюцца на пазначаны адрас у двух экземплярах. Тэлепраграмы разам з двума экземплярамі сцэнарыя прымаюцца на відэакасетах стандарта BETACAM SP-pal; SVHS-pal; VHS-pal, secam. Радыёпраграмы разам з двума экземплярамі сцэнарыя прадстаўляюцца на стандартных аўдыякасетах.

Прыём матэрыялаў і рукапісаў заканчваецца 1 жніўня.

Рашэнні журы публікуюцца ў друку да дня нараджэння Алеся Адамовіча (3 верасня).

Памер прэміі імя Алеся Адамовіча ў кожнай намінацыі — 500 долараў ЗША па курсу Нацыянальнага банка Беларусі на момант атрымання прэміі.

Лаўрэат прэміі імя Алеся Адамовіча атрымлівае Знак лаўрэата.

Даведкі па тэлефонах: 394-086, 394-536.

**Беларускі ПЭН-цэнтр,**
**Мас-Медыя Цэнтр.**

